№ 40 Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 40 (235). Год III. Вільня, 17 мая 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 16 мая.

**Заходні тэатр:**

На поўначы ад Кэмэля мы выкінулі французаў з вузкага адрэзку нашай пярэдняй лініі, куды яны ўварваліся ўчора раніцай. Наабапал каналу Лябассэ, а такжэ між Соммай і Авр—вострыя артылерыйскі агонь ворагаў проці нашых артылерыйскіх і пяхотных пазыцій. На заходнім беразі Авр ворагі прабавалі наступаць з лесу Сэнка, але былі адбіты с цяжкімі стратамі.

---

На ўсім фронці жывейшая чыннасць лятуноў і чысьленые стычкі на паветры. Мы зьбілі 33 варожые самалёты, у тым ліку 14 зьбіла лятучая эскадра памёршага ротмістра Ріхтгофэна.

---

ЛОНДОН (Рэўтэр). Чэмбэрлен у аднэй сваей прамове ў Лондоне сказаў:

„Англіцкі ўрад не раўнадушны да пытаньня аб міры, але німа ніякай карысьці гаварыць аб міры перад канцом station становучай баталіі.“

БЭРЛІН. У поясе блокады навакол Англіі ізноў затоплено падводнымі лодкамі 11,500 тонн.

ЦЮРЫХ. С Канады наказываюць, што тамака аб'яўлено асаднае палажэньне. У Квэбэку адбываюцца сапраўдные бітвы між народам і войскам.

ВАШЫНГТОН. Міністэр фінансаў Макаду пазволіў пазычыць Англіі 200 мільёнаў доляраў і Францыі ды Італіі — пе 100 мільёнаў доляраў. Гэтак саюзьнікі пазычылі ў Амэрыцэ 5,764 мільёны доляраў.

БЭРН. Амэрыканскіе газэты апавешчаюць поўурадова, што японскі ўрад прэдлажыў кітайскаму мобілізаваць 400.000 „дзеля супакоеньня Кітаю». Каліж Кітай на гэга не прыстане, дык Японія будзе прымушэна паслаць своё войска у правінціі Шантунг і Фукі бараніць свае інтэрэсы. Апрыч таго Японія падала Кітаю ультыматум, дамагаючыся японскага кантролю над кітайскімі фінансамі, чыгункамі, вэрфямі і прызнаньня Монголіі ў межах японскага ўплыву.

ВАШЫНГТОН. Ад 15 мая ня будуць больш даваць пазваленьня на вываз тавараў, калі ў кожным асобным прыпадку прэдстаўнікі Англіі, Францыі, Італіі і Бэльгіі не прызнаюць яго патрэбным.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Паўнамочные делегаты ураду паўночнага Каўказу звярнуліся да ўсіх урадаў з нотай, у каторай апавешчаецца, што ў верасьні 1917 прэдстаўніцтва ўсіх нацыянальнасьцей краю апавесьціло незалежнасьць паўночнага Каўказу і аддало спаўніцельную ўласьць цяперашняму ўраду. Гасударства на поўначы будзе мець географічные граніцы Дагестану, Терскай обласьці, Ставрополя, Кубанскай і Чорнаморскай обласьці, на заходзі— Чорнае морэ, на ўсходзі—Каспійскае. Палудзенные граніцы будуць устаноўлены на аснове угоды з Закаўкаскай рэспублікай.

ГЭЛЬСІНГФОРС. «Hufvudstadtsbladet» друкуе адозву прэдстаўнікаў буржуазных груп, каторая лічыць монархічны лад за ядыную форму упраўленьня, якая можэ забаспечыць ад унутрэных і замяжовых ворагаў. Апрыч таго яна радзіць далучыцца да цэнтральных дзержаў і дапоўніць сэйм прэдстаўнікамі землеўласьнікаў, прамышленасьці, таргоўлі і культурных слаёў. Дзеля выясьненьня пагляду на монархічные планы на 19 мая сазываецца агульна-соцыялістычны конгрэс у Гэльсінгфорсе.

Цяперашні склад сойму гэткі: 51 старафін, 25 младафінаў, 26 землеўласьнікаў, 21 швэд, ды каля 20 соцыял-дэмакратаў.

КІЕЎ (В.Т.Б.). 15.V. Гэнэлал Рагоза назначэн за украінскага міністра.

КОУНА. Коррэсп. Б. наказывае, што глаўнакамандуючый на Усходзі прынц Леопольд Баварскі быў 14 і 15 мая у Дзьвінску. Ен быў на ваенным парадзе, агледаў места, прыняў на аўдыэнціі духавенства ўсіх вер і прэдстаўнікаў местовай і земскай адміністрацыі. У цытадэлі пры ім быў прачытан рэфэрат аб мінуўшчыне места і крэпасьці Дзьвінска. Пасьля палудня ў маторнай лодцы глаўнакамандуючый паехаў уверх па Заходняй Дзьвіне.

КІЕУ. Дырэктар зямельнага банку, Рэйхэр, назначэн дырэктарам дэпартамэнту нямецкіх колоністаў на Украіне.

МАСКВА (П.Т.А.). 15.V. 3 мая савет народных камісараў пастанавіў скасаваць права спадчыны. Пасьля сьмерці меньне памёршага пераходзіць у казну.

ПАРЫЖ. У часі гутарак у парлямэнці аб еміннных справах міністэр емінных спраў сказаў, што запасаў Францыі нельга павялічыць падвозам. Парлямэнт прыняў рэзалюцію, трэбуючы пляновай рэквізыціі жывёлы, апрача рабочай.

ЛОНДОН (Рэўтэр). «Westminster Gazette» бачыць у спатканьні аўстрыяцкега і нямецкага імпэратараў спробу утварыць ядыную цэнтральную Эўропу. Газэта клічэ англіцкі ўрад учыніць крокі проці правядзеньня гэтага праекту, грознага для свабоды Эўропы.

ВЕНА. 16 членаў аўстрыяцкай верхней палаты утварылі новую партыю права. Да яе належаць і 2 украінцы.

БЭРЛІН. Урадовая „Газэта Загадаў“ надрукавала закон проці павялічыванья цэн. Вінавайцаў карацімуць штрафам грашмі да 200.000 марак і вастрогам, а пры паўтарэньні праступку—арэштанцкімі ротамі і штрафам грашмі да 500.000 марак.

БАЗЭЛЬ. Украінскае Корр. Бюро наказывае офіцыяльна с Кіева, што генэрал Корнілов ў пад Кацярынаславам 14 красавіка забіт на сьмерць куском гранаты.

ВЕНА. 14 мая ворагі ў досьвітках зрабілі спробу прарвацца на торпэднай лодцы ў порт Поля. Наша старожа перашкодзіла ворагам і затапіла торпэдную лодку, с каторай людзей мы ўзялі ў палон.

У бітве на паветры пагіблі 1 варожы і 1 наш самалёт.

---

С прычыны сьвята сьв. Тройцы (Сёмухі) чародны № «Гомана» выйдзе у авторак, 21 мая, у вечары.

---

## Незалежная Беларусь.

**Царкоўные справы.**

5 мая, у першы дзень Вялікодных сьвят паводлуг старога стылю, старшыня Народнага Сэкрэтарыяту (ён-жэ намесьнік старшыні Рады), Язэп Варонка, даведаўся архіепіскапа менскага і тураўскага Юрыя і меў з ім гадзінную гутарку аб справах, зьвязаных с цяперашнім палажэньнем праваслаўнай царквы ў Беларусі і з безупыннымі просьбамі пакінутых ад 1915 году праваслаўным духавенствам жыхараў Віленшчыны і Гарадзеншчыны, каторые просяць аб здаволеньні іх духоўных патрэб.

Побач з гэтым было закрануто пытаньне надта вялікай вагі: аб рэорганізацыі упраўленьня Царквой у Беларусі, як у незалежнай дзержаве.

Архіепіскоп Юрый выказаў жаданьне, каб пры ўчасьці старшыні Народнага Сэкрэтарыяту была організована камісія, каторая занялася-бы разглядам пытаньня аб павароці духавенства у межы старой окупацыі, а такжэ аб звароці на старое месцэ вывезеных царкоўных рэчаў, — як сьвятых рэчаў, так і царкоўных архіваў, званоў і інш.

**Дэлегат з Вітэбска.**

Да Народнага Сэкрэтарыяту прыежджаў дэлегат апынуўшыхся ў Вітэбску беларусаў-уцекачоў з Беластоку, І. Жылкевіч, каб даведацца, ці вельмі зруйнаваны вёскі ў Беласточчыне і на якіх варунках уцекачы маглі-бы вярнуцца ў родны край. І. Жылкевіч прымімаў учасьце ў работах камісіі дзеля спраў уцекачоў пры Народным Сэкрэтарыяце.

**Рада Старэйшых.**

У Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі утварылася рада старэйшых (senjoren-konwent), зложэны з гэткіх асоб: ад прэзыдзіума Рады Б. Н. Р. — І. Сэрэда, Я. Варонка, А. Аўсянік, М. Косьцевіч; ад фракціі беларускіх соцыялістаў—А. Смоліч, Я. Лёсік; ад фракціі цэнтру—Р. Скірмунт. А. Уласаў, кс. В. Годлеўскі і П. Алекюк; ад фракціі белар. соц.-рэв.—Ф. Грыб і А. Пашковіч.

7 мая рада старэйшых мела сваё першае організацыйнае заседаньне. За прэзыдзіум яе выбран прэзыдзіум Рады Б. Н. Р.

**Кольлегіі пры Народным Сэкрэтарыяце.**

Народны Сэкрэтарыят пастанавіў пры народных сэкрэтарствах унутрэнных спраў, фінансаў і народнай гаспадаркі організаваць кольлегіі з дазнаных асоб і спэцыялістаў дзеля вырабаткі законаў, праекту організацыі упраўленьня і пляну рэформ адміністрацыйных, фінансовых і сельска-гаспадарскіх.

**Беларуска-украінскіе адносіны.**

Весткі аб апошніх здарэньнях на Украіне дайшлі да Менска толькі 4 мая.

Украінская калёнія ў Менску аказалася зусім непрыгатаванай да іх. 5 мая ў гасподзі Украінскай Рады ў Менску адбылося заседаньне членаў ураду Рады, на каторае быў спэцыяльна запрошэн і старшыня Народнага Сэкрэтарыяту Б. Н. Р. Заседаньне гэтае, не прымімаючы ніякіх рэзолюцій, прыгатавало грунт дзеля далейшых офіцыяльных нарад.

---

*Вільня, 17 мая 1918.*

У тым нумэры «Гомана» мы пісалі, што у глаўнай камісіі нямецкага Рэйхстагу дэпутат Рэхэнбэрг запытаўся, чаму дагэтуль німа гутаркі аб Беларусі? І гэтае пытаньне найлепш паказвае, што беларуская справа ўжо гэтак насьпела, што яна так ці сяк павінна быць развязана ў найбліжэйшым часе.

Запраўды, пасьля развязкі пытаньня аб Ліфляндзіі і Эстляндзіі прыйшоў чарод на Беларусь. Калі менскіе беларусы ў марцы месяцы зьвярнуліся першы раз да Нямеччыны с просьбай аб помач у тварэньні Беларускай дзяржавы, яны атрымалі адказ, што Беларусь становіць часць Расейскай дзержавы, і з гэтай прычыны немцы, ў мысль берасьцейскай умовы, ня могуць мешацца да беларускіх спраў, як да «ўнутрэных спраў Вялікарасеі». Але пасьля гэтага на Беларусі стаўся факт, каторы зусім зьмяніў палажэньне нашае Бацькаўшчыны с пагляду гасударственнага права: Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аб'явіла Беларусь *незалежнай дзержавай*, і на моцы гэтай пастановы ўсе старые зьвязі з Расеей прызнаюцца разарванымі. Адгэтуль тольві сама Беларусь у асобе сваей законнай уласьці можэ пастанаўляць аб сваей долі, можэ зьвертацца да другіх дзержаў, можэ рабіць з імі умовы і саюзы, — і Расеі ўжо да гэтага німа ніякага дзела, бо Беларусь апынулася за межамі Расейскага гасударства.

Беларускі ўрад учыніў патрэбные крокі дзеля апавешчэньня ўсіх народаў аб незалежнасьці Беларусі. Ён пачаў перэгаворы з Украінай, выслаў сваіх паўнамочнікаў у Кіеў дзеля учасьця ў украінска-расейскіх перэгаворах, а ў апошніх днох учыніў новы важны крок, каб завязаць зносіны з Нямеччынай. Як мы даведываемся, апошняя ўжо ў найбліжэйшым часе мае выясьніць сваё становішчэ ў беларускай справе.

ня ў Верхнай Палаце. Роспуск пруского сэйму наступіць у той мамэнт, калі, на пагляд пруского ўраду, на гэта пазволіць палажэньне на фронці». (Знакі здаволеньня і рух).

ГААГА. «Manchester Gwardian» пішэ, што як закон аб ваеннай павіннасьці ў Ірляндзіі, так і закон аб аўтаноміі Ірляндзіі адложэны на неазначэны час.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 13.V. Заходні тэатр:

У ваколіцах Кэмеля—крапчэйшы агонь артылеры і мейсцовые пешые бітвы. У даліне Анкр, у ваколіцах Альбэр, адбіто мейсцовае наступленьне англічан. Шмат дзе па ўсім фронці варожые разведкі, ў часе каторых мы ўзялі палонных.

У красавіку страты варожых лятуноў становяць: 15 прывязных лятучых шароў і 271 самалёт,—у тым ліку 122 зьбіты за нашымі лініямі. Мы утрацілі 123 самалёты і 14 прывязных лятучых шароў.

### 14.V. Заходні тэатр.

Пасьля вострай падгатоўкі артылерыей французы памыкаліся атакаваць нашы пазыціі на поўначы і паўдні ад Жівэншi, але былі адбіты с цяжкімі стратамі. Усюды—ажыўленые разведкі.

### 15.V. Заходні тэатр.

На поўначы ад Кэмэля пры мейсцовым наступленьні мы ўзялі 126 палонных. Артылерыйская бітва ў ваколіцах Кэмэля узмацавалася. Сягоньня раніцай французы пачалі новые бітвы. Між Ліс і каналам Лябассэ, пры Скарп і Букуа варожая артылерыя была вельмі ажыўлена і ў ночы. Між Анкр і Соммай, ля дарогі Брэ-Корбі, мы ўварваліся на англіцкую лінію і адбілі дзьве сільные контратакі. Пры Віле-Брэтоннэ, наабапал Ліс і Авр артылерыйская бітва крапчэла. На заходнім беразі Авр ворагі атакавалі нашы лініі пры Кастэль, але былі адбіты с цяжкімі стратамі. У розных мясцох—разведкі.

Нашы лятуны зьбілі ўчора 5 варожых шароў. На ўсім фронці вельмі ажывілася чыннасць лятуноў у ночы. Мы абкідалі бомбамі Кале, Дюнкірхэн і розные жалезнадарожные будоўлі ворагаў.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. Урадовая. „Nordd. Allg. Ztg." пішэ с прычыны спроб дайсьці міра ў 1917 гаду:

«На заседаньні францускай камісіі дзеля заграгічных спраў выявілося, што прэзыдэнт Пуанкарэ ў сваім часе паведаміў пісьмом прынца Сыкста Пармскага, што Францiя не здаволіцца Эльзас-Лётарынгіей, а дамагаецца звароту граніцы 1814 году, значыць, далучэньня левага берага Рэйну, як гэта было пастаноўлено ў тайнай умове с царскай Расеей. Цяпер мы разумеем, чаму вайна ўсё яшчэ трывае».

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Мір між Турэччынай і Фінляндзіей падпісан 11 мая ў Бэрліне.

ГААГА. У Англію прыбыла першая эскадра амэрыканскіх контрміноносцаў, вітаная англіцкімі ўласьцямі вельмі урачыста.

ВЕНА. 11 мая паабедзі 6 англіцкіх самалётаў атакавалі ваенны порт Катарро. Адзін самалёт збіт. У нас шкод німа.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі ў Сяродземным моры 7 параходаў ёмкасьцю разам 33.000 тонн.

29 красавіка адна падводная лодка ўвайшла у праліў С. Петро (ў Сардыніі), затапіла ў порці 3 параходы і 1 парусьнік і, ня гледзячы на востры агонь узбярэжных батарэй, вырвалася с порту ў морэ

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак у усходняй часьці каналу Ляманш затапіла 7 параходаў ёмкасьцю разам 22.500 тонн.

ВЕНА. У часе апошняга восеннага наступленьня мы занялі 12.000 кв. кіл. італьянскай зямлі. Ад пачатку вайны на італьянскім фронці паводлуг падрахунку італьянцы мелі страты: 270.000 забітымі, 230.000 пакалечэнымі, 134.000 палоннымі і каля 1.200.000 раненымі, большасць каторых, праўда, вярнулася назад на фронт. Мы здабылі: 2.000 гармат, 3.000 кулемётаў, 150.000 стрэльб, 52 мільёны патронаў, 1 мільён ручных гранат, $1^1/_2$ мільёна артылерыйскіх патронаў.

ТОКІО. Граф Гото на заседаньні сваей партыі заявіў, што палітыка Японіі ня можэ рахавацца з жаданьнямі другіх націй, а толькі са сваей карысьцю. Ён не бачыць патрэбы пасылаць войска ў Сібір. «Мы павінны берагчы сілы і засобы краю на патрэбны момэнт».

## АБВЕСТКІ.







Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.